*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 31 (1494) 5 ЖНІЎНЯ 2020 г.


# 30 гадоў без свята

**27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет 12-га склікання прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР**




**Сяргей Навумчык** згадвае той час:

- Гэты дзень тады ж, у 90-м, быў абвешчаны Днём Незалежнасці, хаця Дэкларацыя незалежнасць не абвяшчала. Строга кажучы, яна толькі пацвярджала тое, што было ўжо запісана ў Канстытуцыі БССР 1978 года - што Беларусь з'яўляецца суверэннай рэспублікай. Незалежнасць будзе абвешчаная толькі праз год, 25 жніўня 91-га.

У 1990-м галасаваць за поўную самастойнасць сакратары райкамаў, старшыні калгасаў, генералы і дырэктары заводаў былі яшчэ не гатовыя, і "Дэкларацыю аб Незалежнасці", якую мы ім прапанавалі, яны адрынулі. Тое, за што яны прагаласавалі, было палавінчатым дакументам, і не ішло ў параўнанне з тым, што было прынята ў Літве ці Латвіі.

Сапраўды, у Беларусі не было так, як у Літве ці Латвіі. Але і ўмовы, у якіх жыў беларускі народ у XX стагоддзі, былі іншымі - два стагоддзі пад Расейскай імперыяй і сем дзесяцігоддзяў пад імперыяй камуністычнай. У 1990-м латыш мог сказаць сыну: "Калі мы жылі ў незалежнай Латвіі...". У Беларусі ніхто не мог распавесці сыну ці наваt унуку пра досвед жыцця ў незалежнай краіне; у заходніх рэгіёнах маглі толькі распавесці, як "было пры Польшчы".

Дэкларацыя прымалася, хаця і "на нервах", але неяк не вельмі заўважна па-за межамі Авальнай залы. 27-га ліпеня мне давялося застацца ў Авальнай зале, калі большасць дэпутатаў БНФ яе пакінула. Парламенцкая большасць спачатку адхіліла падрыхтаваны Фронтам праект, за кожны радок давялося змагацца, потым уключыла палажэнне пра "новы Саюз", а потым увогуле некаторыя паставілі пад сумнеў неабходнасць Дэкларацыі; пасля выхаду з залы фронтаўцаў дэпутаты пад настроем - "А, дык БНФ не хоча галасаваць? Дык тады прагаласуем!" - націснулі кнопкі, на гэта і быў разлік.

Але за наступныя месяцы яны прывызычаіліся, што перад гэтым на сесіях, калі прымалі законы, апазіцыя апелявала да Дэкларацыі. Слова "суверэнітэт" не выклікала ў іх страху. 25 жніўня 91-га яны прагаласавалі за незалежнасць. Так, на іх рашэнне паўплываў выступ Зянона Пазьняка, націск дэпутатаў БНФ, якіх падтрымалі іншыя дэмакратычныя дэпутаты, і канешне - тысячы чалавек на Плошчы. Усё гэта так.

Але, калі я задумваюся над тым, ці магла б дэпутацкая большасць гэтак прагаласаваць у 91-м, калі б не было прынятай годам раней Дэкларацыі аб суверэнітэце - прыходжу да высновы, што - наўрад ці.

Яно так. Беларусы дома і за мяжой выдатна разумелі, што ў рамках Саюза Дэкларацыя 27 ліпеня - гэта яшчэ не незалежнасць, але велізарны крок да незалежнасці. У Менску памкнуліся былі святкаваць 27 ліпеня як Дзень Незалежнасці, пра што сведчаць расцяжкі па горадзе, але са святам не задалося. Неўзабаве здарылася 25 жніўня 91-га, потым 8 снежня. Паралельна святкавалі 25 сакавіка, ну а затым яшчэ 3 ліпеня. Святаў незалежнасці было больш, чым самой незалежнасці, і ўсім стала не да 27 ліпеня.

Аднак, не ўсюды забылі пра гэты дзень. З 1995 года 27 ліпеня святкуецца грамадскасцю Ліды, як асноўнае летняе свята. 19 гадоў святкаванне ішло безперапынна, потым пачаліся праблемы з дазволамі, мяняліся формы, але свята адзначалася. Партыя БНФ прымала рашэнне па аднаўленні святкавання 27 ліпеня. Рашэнне засталося на паперы, дата застаецца паўзабытай, але незаслужана, а таму не назаўжды.

***Паводле Радыё Свабода.***




# Свабоду Севярынцу! Як бы ні так



*Грамадскае аб'яднанне*
*"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*
*220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 263-85-11, разліковы рахунак № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні па Мінску і Мінскай вобласці №539 ААТ Белінвестбанк", г. Мінска, код BLBBBY2X*

**23 чэрвеня 2020 г. № 31**

Р.А. Галоўчанку,
Прэм'ер-Міністру
Рэспублікі Беларусь,
вул. Савецкая, д. 9,
220010, г. Мінск

Аб вызваленні П. Севярынца,
сябра ТБМ

**Паважаны Раман Аляксандравіч!**

Падчас сёлетняй кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь быў затрыманы і чарговы раз зняволены актыўны сябра ТБМ Павел Севярынец. Як вынікае з матэрыялаў у СМІ і па інфармацыі праваабарончых арганізацый, умовы яго зняволення не адпавядаюць міжнародным стандартам.

У сувязі з гэтым, звяртаемся да Вас з просьбай узяць пад асабісты кантроль прычыны і ўмовы ўтрымання пад вартай Паўла Севярынца.

З павагай,

Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" А. Анісім.



ГЕНЕРАЛЬНАЯ ПРАКУРАТУРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
вул. Інтэрнацыянальная, 22, 220030, г. Мінск
тэл.: +375 17 337 43 57, 378 55 41
факс +375 17 323 42 52
e-mail: info@prokuratura.gov.by
www.prokuratura.gov.by

ГЕНЕРАЛЬНАЯ ПРОКУРАТУРА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ул. Интернациональная, 22, 220030, г. Минск
тел.: +375 17 337 43 57, 378 55 41
факс +375 17 323 42 52
e-mail: info@prokuratura.gov.by
www.prokuratura.gov.by

08.07.2020 № 0702-30д-832

На №______ от ______

Старшыні ГА ТБМ
Анісім А.М.

У Генеральнай пракуратуры вывучаны Ваш зварот, які паступіў з Апарата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, па пытанні абгрунтаванасці затрымання і прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці П. Севярынца.

У адпаведнасці з арт. 7.1 ПВКаАП адміністрацыйнае затрыманне, іншыя працэсуальныя дзеянні могуць быць абскарджаны непасрэдна ўдзельнікамі адміністрацыйнага працэсу, а іншымі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі - толькі калі працэсуальныя дзеянні, якія праводзяцца, і рашэнні закранаюць іх правы і законныя інтарэсы.

Пастанова аб накладанні адміністрацыйнага спагнання на падставе арт. 12.11 ПВКаАП можа быць абскарджана асобай, у адносінах да якой яна вынесена, пацярпелым, а таксама іх прадстаўнікамі і абаронцамі.

Абскарджанне працэсуальных дзеянняў і вынесеных у рамках адміністрацыйнага працэсу працэсуальных рашэнняў іншымі асобамі, якія не адзначаны ў арт. 7.1, 12.11 ПВКаАП, у тым ліку прадстаўнікамі грамадскіх аб'яднанняў, нормамі ПВКаАП не прадугледжана.

Затрыманыя асобы маюць права самастойна звярнуцца за абаронай сваіх інтарэсаў і ва ўстаноўленым ПВКаАП парадку абскардзіць прынятыя ў адносінах да іх працэсуальныя рашэнні ў тэрытарыяльныя органы пракуратуры і суд.

З улікам таго што Вы не з'яўляецеся асобай, якой ва ўстаноўленым законам парадку могуць быць абскарджаны вынесеныя ў адносінах да вышэйназванага грамадзяніна судовыя пастановы па справах аб адміністрацыйных правапарушэннях, дастатковых прававых падстаў для разгляду Вашага звароту па сутнасці не маецца.

Дадатак: на 2 л.

Начальнік аддзела па нагляду
за захаваннем правоў і свабод грамадзян М.В. Папова.



**Пружанская раённая арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**

Пружанскі раённы выканаўчы камітэт,
Пружанскі раённы аддзел унутраных спраў,
Суд Пружанскага раёна,
Пракуратура Пружанскага раёна

ЗВАРОТ

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, жыхары Пружаншчыны, сябры Пружанскай раённай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" звяртаемся да вас, дзяржслужбоўцы, супрацоўнікі МУС, работнікі судовай сістэмы і пракуратуры.

Мы вас усіх ведаем, жывём побач з вамі: вы - нашы суседзі, знаёмыя, знаёмыя знаёмых і іх родныя. Вы займаеце адказныя пасады, выконваеце свае абавязкі перад народам, за што мы вам шчыра ўдзячныя. У гэты лёсавызначальны год для нашай Рэспублікі - год выбараў Прэзідэнта Беларусі - кожны беларус павінен зрабіць свой сумленны выбар.

Сёння для кожнага зразумела, што краіна патрабуе перамен, і перш за ўсё - змен ва ўладзе. 26 гадоў - шмат для любога менеджара. Мы разам з вамі бачым, як народ, а галоўнае - наша моладзь, хоча новай краіны, хоча развіваць нашу Беларусь, жыць і працаваць на гэтай зямлі. Давайце зробім правільны выбар - на карысць змены ўлады, за будучыню моладзі, каб наступіў новы дзень у свабоднай Беларусі, без страху ды прыгнёту. Мы не прападзём: у Беларусі шмат разумных і моцных людзей, кожнаму знойдзецца праца ў новай краіне.

Вы прымаеце вызначальныя рашэнні - няхай гэтыя рашэнні будуць чалавечныя і па сумленні. Як сказаў Гельвецый, "Згрызоты сумлення пачынаюцца там, дзе канчаецца беспакаранасць". А канец яе будзе. І мы не хочам, каб гэтая доля закранула вас.

Мы кажам "Не!" незаконным затрыманням і супрацьпраўным дзеянням у дачыненні да пружанцаў і грамадзян Беларусі.

Мы кажам "Не!" палітычнаму пераследу і ціску на грамадзян.

Мы кажам "Не!" загонам на датэрміновае галасаванне.

Заставайцеся сумленнымі! Заставайцеся беларусамі!

*Раённая Рада "ТБМ імя Ф.Скарыны ",*
*г. Пружаны,*
*22 ліпеня 2020 г.*

***Леанід Лыч,***
***доктар гістарычных навук, прафесар***

# Беларусь прэзідэнцкая ў этнакультурным адлюстраванні

У ліпені 1994 года ў гісторыі Беларусі адбылася падзея, якая асабліва тры-чатыры гады нікому не прыходзіла ў галаву. Краіна стала прэзідэнцкай рэспублікай. Да гэтага часу некалькі гадоў праіснавала таксама ў новым для яе фармаце парламенцкай рэспублікі. Хоць такое зараз дзяржаўнае ўтварэнне было і навізной, неяк палітыкам удавалася з яго дапамогай дамагацца пэўных поспехаў. Асабліва вялікую радасць зведвалі нацыянальна свядомыя станы грамадства ад дасягненняў у правядзенні, прычым на высокім дзяржаўным узроўні, страшэнна запознелай палітыкі беларусізацыі. Была яна другой па ліку, бо першая, як вядома, прыпала на міжваенны перыяд і на радасць многім дала добры плён. Такое можна сказаць і пра Гарбачоўскую (заўсёды пішу з вялікай літары) перабудову, галоўным, адзіным правадніком якой была Кампартыя Беларусі. Заўважце: такое піша чалавек, які ніколі не належаў да яе, маючы ад гэтага нямала бар'ераў для свайго прафесійнага росту на ніве гістарычнай навукі.

Ініцыятыва з боку нізоў па выратаванні беларускай мовы ад поўнага заняпаду (завяла ж яе туды заганная бальшавіцкая нацыянальная палітыка Маскоўскага Крамля) была надзвычай магутнай. Аднак, галоўная роля ў прыняцці 26 студзеня 1990 года Закона аб мовах у Беларускай ССР належала Камуністычнай партыі Беларусі, якой ужо ў гэтым не перашкаджаў Крэмль часоў Міхаіла Гарбачова, а іншым разам нават і падштурхоўваў партыйнае кіраўніцтва рэспублікі да правядзення такіх захадаў. Згаданым Законам па ўсёй справядлівасці статусам адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы надзялялася толькі мова яе карэннага жыхарства. У цывілізаваных, незалежных краінах не допускаецца, каб у такіх выпадках ёй у супернікі навязвалі яшчэ якую-небудзь мову. Такі "гасцінец" могуць прапанаваць толькі каланіяльнай краіне.

Не будучы камуністам, вельмі шкадаваў пра роспуск Кампартыі Беларусі, бо веруй і ў яе шчырае жаданне, і ў бясспрэчную здольнасць вярнуць беларускую мову да жыцця. На вялікае шчасце, у той час, як ніколі раней, у рэспубліканскім апараце ЦК КПБ, абкамах, райкамах, гаркамах працавала шмат сапраўдных беларускіх нацыянальных патрыётаў, да таго ж яшчэ і высокага інтэлекту, якія шчыра жадалі, многа рабілі па пашырэнні сацыяльнай сферы ўжывання беларускай мовы. Затым нямала іх перайшло на працу ў розныя структуры парламенцкай сістэмы кіравання.

Праблем, у тым ліку і вельмі складаных, тэрміновых у яе хапала, што, аднак, адмоўна не адбівалася на ходзе нацыянальна-культурнага адраджэння. Яно ўпэўнена набірала размах, знаходзіла так неабходную падтрымку ў шырокіх колах грамадства. Што беларускую мову ўдасца выратаваць ад прычыненага ёй русіфікатарамі заняпаду, зрабіць, як таго яна заслугоўвала, адзінай дзяржаўнай у краіне, мала хто сумняваўся. Людзі ахвотна браліся за гэтую патрыятычную, нацыястваральную справу.

У аднachасе з паспяховым, упэўненым ходам нацыянальна-культурніцкага адраджэння актыўна вялася прапаганда пра неабходнасць замены парламенцкай сістэмы на прэзідэнцкую, як нібыта больш прагрэсіўную і асабліва актуальную для Беларусі ў такі нялёгкі час. На дзіва, з'явілася нямала напалеончыкаў, гатовых узяць у свае рукі ўсю паўнату ўлады.

Я знаходзіўся сярод працаўнікоў, прычым зацятых, увядзення пасады прэзідэнта, бо ведаў, колькі гора прыносіла народам такая палітычная сістэма, асабліва ў краінах Лацінскай Амерыкі, дзе прэзідэнты вельмі хутка трансфармоўваліся ў дыктатараў, якія дзеля асабістых інтарэсаў не спыняліся нават перад жорсткім пакараннем і тых, з дапамогай каго дарываліся да ўлады.

Абставіны склаліся так, што першым на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь узышоў Аляксандр Лукашэнка. Падстаў у яго хапала: дзве вышэйшыя адукацыі, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, поўны фізічных сіл, у час выступу добра валодаў аўдыторыяй. Аднак заўважым, у такім буйным палітычным поспеху А. Лукашэнкі немалая заслуга кіраўніцтва Расійскай Федэрацыі, якое ў яго прамовах, дзеяннях нічога не заўважыла з беларускага нацыяналізму (у найлепшым разуменні гэтага слова), а хутчэй наадварот. Ён карыстаўся толькі рускай мовай.

На час заняцця А. Лукашэнкам прэзідэнцкага крэсла краіна задыхалася ад мноства сур'ёзных праблем, пераважна эканамічнага характару. Займаўся імі і Прэзідэнт, не забываючыся і на духоўную сферу. І гэта цалкам лагічна, абгрунтавана. Першая палітычная асоба не можа быць абыякавай да таго, у якім стане знаходзіцца такая важная сфера жыцця дзяржаўнага народа, наколькі забяспечваецца яго этнакультурная самабытнасць, ці не расхістваюцца ўстоі нацыянальнай ідэнтычнасці. Бо калі з усім гэтым ёсць праблемы, дык народ нават матэрыяльна забяспечаны, добра адукаваны можа страціць сваё нацыянальнае аблічча, стаць бесструктурнай этнічнай масай, гноем для кольkаснага павелічэння іншых нацый, разбегчыся па чужых краінах.

Так сталася, што з духоўнай сферы А. Лукашэнка вылушчыў для сябе толькі моўны аспект. Вядома, апошні самы важны, асяродкавы ў ёй, і таму без грунтоўнай прафесійнай падрыхтоўкі цяжка пазбегнуць сур'ёзных памылак, асабліва пры вызначэнні сацыяльнай ролі мовы ў грамадстве. Так яно і здарылася. Ужо ў першыя месяцы прэзідэнцтва А. Лукашэнка паспеў выказаць нямала негатыву на родную мову дзяржаўнага народа, у тым ліку і перад навукоўцамі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. На той сустрэчы прысутнічалі і прадстаўнікі самой красы беларускай інтэлігенцыі філалагічнага профілю. Прамаўчалі! У даваенных беларускіх акадэмікаў, ахвяраў сталінскіх рэпрэсій Усевалада Ігнатоўскага, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка хапіла б смеласці, рашучасці паправіць першую палітычную асобу БССР.

Пасіўнасць акадэмікаў, членкораў лінгвістычнага профілю на сустрэчы з першым Прэзідэнтам не пайшла на карысць ні яму, ні краіне, пра што сведчаць "набыткі" майскага 1995, лістападаўскага 1996 гадоў рэферэндумаў, у выніку іх, як і прадказвалі многія эрудыты, родная мова дзяржаўнага народа выйшла з афіцыйнага ўжывання, што не робіць гонару і палітыку № 1. Яго найгалоўны абавязак - забяспечыць сваёй краіне ўсе ўмовы для развіцця на ўласнай нацыянальна-культурніцкай аснове, а не замяняць яе суседскай.

Прашу звярнуць увагу: лістападаўскі рэферэндум, згодна з якім у Рэспубліцы Беларусь і рускую мову надзялілі статусам дзяржаўнай (афіцыйнае двухмоўе), цвёрда ведаючы, што ў выніку гэтага беларуская непазбежна апынецца на задворку, стане лішняй, правялі ў год, калі спаўнялася 300-годдзе, як прапольскія ўлады Рэчы Паспалітай забаранілі выкарыстоўваць яе ў службовым справаводстве (1696 г.), чым наканавалі апошняй паступовае адміранне. А. Лукашэнка, як гісторык, не мог не ведаць пра такое дзікае моваедства. Паўтарэнне ганебнай польскай практыкі, відаць, толькі надавала яму моцы ў арганізацыі рэферэндуму. Польскія забойцы беларускай мовы асабліва не афішавалі сваю расправу над ёй. Нашыя ж горапалітыкі вынікі лістападаўскага рэферэндуму давялі народу, як вялікае дасягненне ў правядзенні нацыянальнай палітыкі, хаця самі выдатна разумелі, што забілі асінавы кол у сэрца беларускай мовы. Ад людзей жа гэтую горкую праўду ўтойвалі.

Лістападаўскі рэферэндум стаў сапраўдным святам для многіх расіян, бо яны ніколькі не сумняваліся: на дзесяцігоддзе закінутай на сметнік беларускай мове не вытрымаць канкурэнцыі з рускай па абслугоўванні афіцыйнага жыцця. Радаваліся, што хоць у адной са створаных на постсавецкай прасторы дзяржаў руская мова будзе выступаць у ролі гаспадыні. За забеспячэнне ёй такога прэстыжнага, панавальнага становішча ўлады Беларусі мелі ад Расіі пэўныя прэферэнцыі.

Прадвызначыўшы беларускай мове паступовы адыход у нябыт, А. Лукашэнка не толькі не карыстаўся ёю пры выкананні сваіх службовых абавязкаў, але і не прамінаў пры любым зручным выпадку сказаць штосьці абразлівае на яе адрас. Балазе, і ў часы Расійскай імперыі, і ў міжваеннай Польшчы хапала ў беларускай мовы зацятых ворагаў. За гэта ім добра плацілі, забяспечвалі хуткае прасоўванне па службовай лесвіцы. І ўжо самае агіднае: спрадвеку беларускую мову хаялі Руская праваслаўная царква і Польскі каталіцкі касцёл, на што маем права глядзець, як на вялікае злачынства гэтых канфесій перад самім Богам. Беларусы могуць толькі пазайздросціць здзейсненаму імі ўкладу ў фармаванне, развіццё, кансалідацыю рускай і польскай нацый.

Палітыкі міжваеннай Польшчы, імкнучыся хутчэй пераўтвараць беларускі абшар - "усходнія крэсы" ў тыповы польскі нацыянальны рэгіён накшталт таго, як сёння прэзідэнцкая вертыкаль падганяе - на няшчасце, даволі вынікова - нашую краіну пад рускія культурна-моўныя стандарты. У сваім інтэрв'ю карэспандэнту адной з французскіх газет польскі міністр замежных спраў Бэк сказаў (думаецца, з вялікім задавальненнем) наступнае: "Мы закрываем у Заходняй Беларусі школы і замяняем іх польскімі (якое падабенства з тым, што адбывалася з другой паловы 1990-х гадоў з беларускімі і рускімі школамі ў Рэспубліцы Беларусь!) таму, што беларусы - народ адсталы, беларуская мова неразвітая (а калі б і сапраўды было так, дык ці ж не мелі тут віны польскія асімілятары! *- Л.Л.*) і мала карысці прыносіць яна тым, хто ёю валодае і хто на ёй вучыцца". Як падобна да поглядаў на беларускую мову палітыкаў сучаснай Рэспублікі Беларусь! Такога роду ахінею нёс на беларусаў "усходніх крэсаў", іх родную мову і другі добра вядомы ў міжваеннай Польшчы палітык Уладзіслаў Студніцкі. Яму належаць такія абразлівыя словы: *"Этнаграфічная беларуская мова павінна быць безумоўна асімілявана, і беларусы павінны пакінуць мары аб нацыянальным існаванні. Ні аб якім беларускім народзе не можа быць і размовы, таму што беларусы не маюць уласных традыцый".*

Ах, як многа ў гэтым накірунку зроблена прэзідэнцкай вертыкаллю! Не сумняваюся і Бэк, і Студніцкі з вялікім задавальненнем паставілі б ёй за гэта "5" з плюсам. Але было б несправядлівым не заўважыць у далёкім і блізкім мінулым сярод польскіх, рускіх навукоўцаў і асобаў справядлівых аб'ектыўных поглядаў на беларускую мову. Такіх хапала. Гэта сёння на іх востры дэфіцыт, бо першым трэба падтрымаць улады ў падгонцы беларускіх этнічных тэрыторый пад польскі манер, а другім не перашкаджаць А. Лукашэнку ў завяршэнні абрусення сваёй краіны. Што тычыцца царскай Расіі, дык хоць у ёй такі курс таксама лічыўся актуальным, надзённым, навукоўцы не знаходзіліся, як сёння, у поўнай залежнасці ад улады. Калі б усё гэта было не так, акадэмік Расійскай акадэміі навук Д. Языкаў (1773-1845) не зрабіў бы пасля наведвання беларускіх губерняў такога смелага справядлівага заключэння: *"Сапраўдная мова беларуская ёсць вельмі цікавая, якую нашыя навукоўцы павінны старанна вывучаць таму, што яна многае тлумачыць у рускіх летапісах* (г.зн. старажытная. *- Л.Л.*) *і філалогіі нашай мовы* (рускай. - Л.Л.): ***яе можна называць бацькам вялікарасійскага дыялекту"*** (падкрэслена мною. *- Л.Л.*). Далей акадэмік піша, што ў варажскія часы на беларускай мове размаўлялі ў Пскове і Ноўгарадзе. Нам усім, у тым ліку і Прэзідэнту краіны, трэба было кленчыць перад беларускай мовай, а не шукаць ёй "сяброўку", з дапамогай якой вытурылі сапраўдную родную мову дзяржаўнага народа з афіцыйнага жыцця і загубілі яе. Сорам!

Па-за ўсялякіх сумненняў беларуская мова - гэта мова самабытная, арыгінальная, на некалькі стагоддзяў старэйшая за рускую. Апошняя ў сваім нараджэнні, развіцці ў многім абавязана ўкраінскай, беларускай мовам. А іншага ж і быць не магло: Маскоўскае княства фармавалася на фіна-ўгорскіх землях, дзе нельга дапусціць, каб адбываўся працэс утварэння ў якімсьці фармаце славянскай мовы. Жыхарства гэтых земляў карысталася рознымі фіна-ўгорскімі дыялектамі, якія так і не перараслі ў афіцыйную мову Маскоўскага княства. Такой яна стала дзякуючы ўплывам украінскай і беларускай моваў, культурнаму супрацоўніцтву з іх прыроднымі носьбітамі. Трэба мець на ўвазе, што пад гэты час у Маскоўскім княстве па самых розных прычынах апынулася багата адукаваных людзей з Украіны і Беларусі, якія не маглі не зрабіць вялізнага ўплыву на яго духоўнае жыццё.

Яно, дзякуючы заўжды спрыяльнаму палітычнаму фактару пасля вызвалення ад татара-мангольскага прыгнёту, ніколі не зведвала на сябе такога негатыўнага ўздзеяння, якое выпала на долю беларусаў і украінцаў з-за суседства з ваяўнічай Польшчай, а пазней з-за іх знаходжання ў складзе Рэчы Паспалітай. Рускай культуры і мове дужа пашчасціла і сёння шчасціць, што на іх баку заўджы стаяла і стаіць дзяржаўная машына. Культуру ж і мову беларусаў яна вельмі часта ігнаравала, прыгнятала, што характэрна і для сучаснай вертыкалі.

Адабраўшы ў беларусаў праз афіцыйнае двухмоўе родную мову, улады пазбавілі іх прва быць самабытным народам і нават насіць сваё традыцыйнае імя. На пошукі яго шмат часу не спатрэбілася Прэзідэнту. Ад яго было пачута, што паколькі амаль усе беларусы з'яўляюцца рускамоўнымі - значыцца яны ёсць нацыя руская. Логікі дастаткова, бо мова ж - асноўны крытэрый вызначэння нацыянальнасці. Кожны з народаў, не будучы да канца засіміляваным, карыстаецца сваёй мовай: немцы - нямецкай, палякі - польскай, рускія - рускай, французы - французскай... Паколькі прэзідэнцкай вертыкалі ўдалося ледзве не пагалоўна зрабіць усіх беларусаў рускамоўнымі, А. Лукашэнка натуральна меў падставы назваць беларусаў рускімі. Каб і астатніх падахвоціць да такой этнічнай трансфармацыі, ён для рускамоўных беларусаў вынайшаў вельмі ўдалы этнонім: "рускія са знакам якасці". Праўда, па старой звычцы ўсё яшчэ ўжываецца мёртвы, неадпаведны рэальнаму жыццю этнонім "беларус".

І што дзіўна: накінуты А. Лукашэнкам на беларусаў этнонім "рускія са знакам якасці" не выклікаў ніякіх пярэчанняў у шматлікага афіцыйнага корпусу айчынных навукоўцаў гуманітарнага профілю Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, вышэйшых навучальных установ у т. л. і саміх этнографаў. Яны нібыта не ведалі пра трохтомную працу нашага славутага навукоўца акадэміка Пецярбургскай акадэміі навук Яўхіма Карскага "Беларусы", вялікую колькасць кніг па этнагенезу беларусаў, выдадзеных калектывам Інстытута этнаграфіі, мастацтва і фальклору Акадэміі навук БССР, шэрагу змястоўных дэфініцый "Беларусы" ў энцыклапедычнах выданнях, у т. л і ў маскоўскіх. Сказаў Прэзідэнт краіны, што беларусы - гэта рускія, так яно і быць павінна.

На добры лад штучна, беспадстаўна накінутай А. Лукашэнкам беларусам назве "рускія" павінны былі б запярэчыць і навукоўцы Расіі. Праўда ж для іх павінна быць даражэй за ўсякую хлусню, з чыіх бы вуснаў яна не сыходзіла. Відаць, абрадаваліся, што рускіх у Еўропе прыбавілася блізу на 9 мільёнаў і што ўзніклі больш спрыяльныя ўмовы для аб'яднання і рускіх, і колішніх беларусаў (то зараз рускіх) у адну дзяржаву. Бо які ж гэта сэнс аднаму і таму народу жыць у дзвюх краінах?

Ніколькі не сумняваюся: партыйна-савецкая, інтэлектуальная эліта і навата менш уплывовыя колы насельніцтва БССР, нягледзячы на свой страх перад Масквой, запратэставалі б супраць Лукашэнкаўскага атаясамлення беларусаў з рускімі, зліцця іх у адзін народ - рускі. І як жа мы здалі ў сваёй нацыянальнай свядомасці, як аддаліліся ад уласнай нацыянальнай ідэнтычнасці!!! Во якая сілішча ў прэзідэнцкай палітычнай сістэмы, запанаваных у ёй аўтарытарызму, таталітарызму!

Адзначым, што небяспечная гульня ў адзіны руска-беларускі народ мае даволі глыбокія карані. Гэтую карту асабліва любілі разыгрываць палітыкі царскай Расіі пасля падзелу Рэчы Паспалітай. Прагрэсіўныя сілы Еўропы не маглі дараваць імператарам Расіі, Прусіі, Аўстры за незаконнае, гвалтоўнае расцягванне па сваіх кватэрах тэрыторыі аднай з найбуйнейшых на еўрапейскім кантыненце краіны - Рэчы Паспалітай. Мінаді гады, а ніхто не мог дараваць гэтым злым імперыям за ўчыненае злачынства. Вядомы палітычны дзеяч таго часу Карл Маркс назваў іх кіраўнікоў разбойнікамі з вялікай дарогі. Ва ўнісон яму Уладзімір Ленін характарызаваў іх нават каранованымі разбойнікамі. Найбольшую тэрыторыю Рэчы Паспалітай урваў сабе рускі разбойнік, "таму што быў тады (паводле ленінскай адзнакі) мацнейшы."

У апошнія дзесяцігоддзі існавання РП афіцыйнай назвай нашага народа ў ёй была *ліцвіны* (*літоўцы*). Толькі на самым крайнім усходзе Магілёўшчыны ўжываўся этнонім *беларусы* (*беларусцы*), што ім было блізка па вымаўленні да "*рускі*", які з дапамогай свецкай і царкоўнай уладаў выцясніў з афіцыйнага ўжытку назвы *маскоўцы, маскавіты, масквіцяне* і падобныя. Таму царызму нялёгка было апраўдацца ў развале РП. Каб хоць трохі зняць з сябе віну, ён пагаджаецца на стварэнне на базе Полацкай і Магілёўскай губерняў Беларускай губерні з цэнтрам у Віцебску. Пэўны час слова "Беларуская" прысутнічала ў назве навучальнай акругі. І неабходна адзначыць, што пазітыўна ўплывала на фармаванне ў нашых людзей праўдзівага погляду на сябе, як на адметны ад рускіх этнас. Каб быць далей ад гэтай бяды, цар Мікалай І забараняе афіцыйнае ўжыванне тэрміна "Беларусь". Дзякуй рускім навукоўцам: на старонках іх прац часта прысутнічала слова *беларусы*, не атаясамлівалася з рускімі і так ніколі не адышло ў нябыт. Верыцца, што тыя навукоўцы, не ў прыклад сучасным, жывога месца не пакінулі б ад гістарычнага адкрыцця А. Лукашэнкі: беларусы - гэта тыя ж самыя рускія.

Не сакрэт, сярод навукоўцаў царскай Расіі ўсё ж хапала прыхільнікаў правядзення глабальнай дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі ўсяго нярускага жыхарства імперыі. Аднак сярод іх было дастаткова і тых, хто лічыў непатрэбным правядзенне падобнай палітыкі ў дачыненні да беларусаў, не бачачы ў апошніх якіх-небудзь асаблівых этнакультурных адрозненняў ад рускіх. Як мне падаецца, больш за ўсё праўды ў поглядах на гэтае няпростае, свядома заблытанае пытанне ў рускага этнографа, акадэміка Пецярбргскай акадэміі навук Аляксандра Пыпіна (1833-1904). Ён выказаў такую думку, што пасля далучэння Беларускага краю да Расіі тут на яго "глядзелі хутчэй як на польскі (заслуга паланізацыі! -*Л.Л.*), чым як на рускі", "лічыі зусім альбо па большай частцы польскім і чужым", "самі рускія… слаба прыпаміналі і ў маскоўскія, і ў найноўшыя часы сваё *адзінства* з беларусамі" (падкрэсліна мною. - *Л.Л.*). Невыпадкова такога жаданага для рускіх русіфікатараў адзінства даводзілася стагоддзямі дамагацца з-пад палкі, пусціўшы ў ход увесь рэсурс дзяржаўнага чыноўніцкага апарату, рускай сістэмы народнай адукацыі, Рускай праваслаўнай царквы. У савецкі час русіфікатарскай палітыкай на Беларусі займаліся бальшавікі, на змену якім прыйшла магутная прэзідэнцкая вертыкаль і практычна завяршыла гэты пачварны працэс.

Трагічны сыход беларусаў са сваёй нацыянальнай нівы на рускую - гэта не іх выбар, а вынік злачынных дзеянняў чужых і собскіх русіфікатараў у асобе дзяржаўных дзеячоў самых высокіх рангаў. Спасылка на нейкую надуманую міфалагічную этнакультурную тоеснасць паміж беларусамі і рускімі, як прычыну раставрэння першых у асяроддзі другіх, не мае пад сабой ніякага грунту. У маскоўскія часы, г.зн на стадыі фармавання беларускай і рускай народнасцяў, гэта былі зусім непадобныя адна на адну этнічныя супольнасці, якіх аддзялялі сотні вёрстаў. Сёння на сур'ёзнае членства ў такой супольнасці народаў Маскоўскай дзяржавы прэтэндуюць татары ў асобе дэпутата Дзярждумы РФ, аўтара кнігі "Татарыя і татары" Фаціха Сібагатуліна. Ён выказвае думку, што Арда - гэта рускае рэгулярнае войска, а татары, разбаўленыя полаўцамі і магчыма булгарамі, яе ваяры. Сваіх знайшлі! Ну ці ж нам, беларусам з магутнай балцкаславянскай этнічнай асновай, лезці ў гэтую гушчу цюрскіх народаў?! Супраць іх я нічога кепскага не маю, бо ў маіх унука, праўнука (сын адышоў у замагільны свет), якія жывуць у Башкартастане), больш татарскай крыві, чым беларускай. Праўда, на маю вялікую радасць беларускага паходжання прозвішча Лыч захоўваюць.

У нас няма ніякіх падстаў бачыць штосьці прыроднабіялагічнае, агульнаэтнічнае з рускімі не толькі ў маскоўскія, але і ў больш познія часы, калі мелі адасобленую ад іх унітарную, уласную дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае ці як яно ўваходзіла ў статусе палітычнага суб'екта ў склад Рэчы Паспалітай. Калі войскі Маскоўскага княства ўрываліся на нашую тэрыторыю, яны заўжды з лютай жорсткасцю распраўляліся і з мірным жыхарствам, чаго не могуць рабіць браты-народы. У вайне Расіі з Рэччу Паспалітай у 1654-1667 гг. Беларусь страціла палову свайго жыхарства, у Вялікую Айчынную - адную трэцюю або чацвёртую частку. Розніца вялікая.

Бясспрэчна, не толькі сёння, а і некалькі стагоддзяў таму ў беларусаў і рускіх, паколькі жылі ў межах агульных краін Расійскай імперыі і СССР, не магло не з'явіцца шмат агульнага ў культуры, мове, побыце і г.д., што не можа не спрыяць усталяванню паміж імі сяброўскіх дачыненняў. Калі ж узнікалі, прычым нават і сур'ёзныя канфлікты, дык гэта толькі па віне палітыкаў.

Як бы на сэрцы не было балюча, неабходна прызнаць: ва ўсёй сваёй масе беларусы не валодаюць, не карыстаюцца базавай, роднай мовай бацькоўскай зямлі. Гэтая злыбеда закранула нават абсалютную бальшыню палітыкаў, інтэлектуальнай эліты. Паводле галоўнага вызначальнага крытэрыю нацыянальнай прынадлежнасці - мовы, і яны разам з усім народам знаходзяцца на апошняй стадыі этнічнага выміраня. І ўсё ж давайце не мірыцца з гэтым, дакажам усяму цывілізаванаму свету, што беларусы, накшталт птушкі фенікса, могуць паўстаць з попелу. Рыхтуючыся да здзяйснення такой высакароднай гістарычнай місіі, мы не маем права памыляцца ў абранні вартага ёй Прэзідэнта краіны. Ім найперш за ўсё павінна быць асоба цвёрдай беларускай нацыянальнай арыентацыі. Асоба, здольная на 180° павярнуць кола айчыннай гісторыі. Годзе з ўдзелам уласнага дзяржаўнага чыноўніцкага апарату так бязлітасна разбураць нацыянальныя асновы жыцця беларусаў! Хоць і моцна спазніліся, але трэба нацыяруйнавальную дзейнасць дзяржавы замяніць нацыястваральнай! Для такой радыкальнай перабудовы патрэбны новы, нацыянальна-адказны Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

# Дэмакратыя без мовы - гэта лінгвацыд



Сёлета мы маем новую палітычную з'яву, калі на сцэну выйшлі тыя, хто раней падтрымліваў сучасную беларускую ўладу, альбо заключыў з ёй сацыяльны кантракт: мы вас не крытыкуем, прымаем вашыя асноўныя каштоўнасці (вашу сімволіку, ідэалогію, знешнюю і ўнутраную палітыку, вашу мову і адносіны да рэлігіі), а вы нас не чапаеце і мы займаемся сваімі справамі: бізнесам, навукай, культурай і маем магчымасць доўга жыць і працаваць з мяжой. Прычым галоўная ўмова - мы ўсе рускамоўныя, альбо "рускія са знакам якасці". Доўгі час сацыяльны кантракт дзейнічаў і абыякавыя да палітыкі людзі паступова палепшылі свой дабрабыт і крытычна альбо абыякава ставіліся да іншадумцаў. Але сярод тых былі людзі, якія змагаліся за захаванне і існаванне беларускай мовы і культуры. Аднак у апошнія гады эканоміка спыніла свой рост, дабрабыт не расце, а ўлада стала рэальна публічна зневажаць народ, які стаў "народцам", а еўрапейская краіна сярэдніх памераў, дзе мы жывём, стала "клочком земли". Пасля падзей на Украіне канчаткова прачнуўся расійскі імперыялізм, які пачаў каланіяльныя захопы новых тэрыторый і выбраў у якасці чарговай ахвяры Беларусь.

Галоўныя лідары "новай апазіцыі" Ціханоўскі, Бабарыка і Цапкала не звярталі ўвагі на беларускую мову і культуру і хацелі збудаваць "Страну для жизни", у якой нашай мове і культуры месца няма.

Аднак улада, якая хоча кіраваць як мага даўжэй, не звярнула ўвагу на іх абыякавасць да беларушчыны, якая часам пераходзіла ў варожасць, і нанесла ім моцны ўдар, нягледзячы на вышэйзгаданую акалічнасць.

Зараз "новая апазіцыя" аб'ядналася вакол Святланы Ціханоўскай і спачатку ставілася, мяккажучы, абыякава да спрадвечных беларускіх каштоўнасцей.

Беларуская эліта разгубілася і падзялілася на тры часткі. Адны вырашылі перачакаць, другія выступілі з крытыкай такіх адносін да беларушчыны, а трэція далучыліся да "новай каманды" і вылучылі новы стары лозунг "спачатку дэмакратыя, а потым мова", што ў нашых умовах азначае ў лепшым выпадку ірландскі варыянт, дзе родная мова ірландцаў існуе на тэрыторыі маленькай рэзервацыі. Дарэчы, Ціханоўская працавала ў Ірландыі, добра пра гэта ведае і пачынае такую ідэю агучваць.

Але простыя людзі, якім душа баліць за знявагу нашай культуры з боку ўлады, паказалі свае адносіны да беларушчыны, і рэжысёры каманды Ціханоўскай зрабілі з гэтага адпаведныя высновы. На апошнім мітынгу ў Менску, дзе былі дзясяткі тысяч людзей, беларуская мова стала прабівацца, як трава праз асфальт. Гэта мова некаторых выступоўцаў, і беларускія песні, і самае галоўнае - рэакцыя простых людзей, якія прынеслі з сабою нацыянальную сімволіку ў розных яе варыянтах і выгуквалі розныя заклікі на роднай мове.

Паколькі ў цуды я даўно не веру, наўрад ці "новая апазіцыя", якая актыўна ганіць "старую" беларускамоўную апазіцыю і яе лідара Зянона Пазняка, атрымае 9 жніўня бліскучую перамогу. Аднак, у выніку збегу розных палітычных абставін такія дзеянні могуць мець нейкі шанец на поспех.

Але нават і тады праблема з захаваннем беларушчыны ў нашай краіне нікуды не знікне. І ірландскі варыянт, дзе дэмакратыя даўно ёсць, а мовы так і няма, мне не да спадобы.

**Алег Трусаў**,
*ганаровы старшыня ТБМ.*

Яўген Гучок

# Імя і сутнасць яго, нажаль, пакуль амаль нязменныя...

## (Аб рабстве паэма-эсэ)

*(Працяг. Пач. у папяр. нумары.)*

***

Рабы адзін аднаго не слухаюць,
А калі і слухаюць,
Дык тут жа пярэчаць адзін аднаму.

***

А хто людзей расстрэльваў
у Курапатах?
Вядома, мангола-крамлёўска-
камуністычныя
Рабы.

***

Нашчадкі забойцаў у Курапатах
Сёння з гонарам цвердзяць,
Што Сталін загартаваў іх народ.

***

Людзей забіваць
Могуць толькі
Рабы.

***

Рука раба,
Працягнутая ўперад,
Рабоў у рабства новае кіруе.

***

Раб сумуе аб Сталіне,
Як той сумаваў
Аб Чынгізхане.

***

Вучоныя рабы
Канструявалі бомбы
І ўручалі неачынгізханам.

***

Аб бомбе амаль што атамнай
Падумваў, не выключана,
І Чынгізхан.

***

Вучыць раба не трэба,
Што трэба рабіць,
Ён ведае, як умацоўваць рабства.

***

Рабу палон не страшны:
Ён у палоне
Ад нараджэння.

***

Дзе трэба заплакаць,
Рабы заўсёды:
- Га-га, гі-гі.

***

Рабоў гаворка,
Як і мысленне, -
Пазадухоўная.

***

Для раба светлафор асаблівы:
На дабро - святло чырвонае,
А на зло - зялёнае.

***

Пыл на вушах -
Вось музыка раба;
Душа яго не ўспрымае гукаў неба.

***

Рабы сваім дыханнем
Усяму жывому
Атручваюць-паганяць атмасферу.

***

На прапанову адвярнуцца
ад рабства
Раб адказвае:
"А як жа далей жыць?"

***

Сярод трох рабоў змоўшчыкаў
Кожны трэці -
Стукач.

***

У рабскім грамадстве
Не прыхавана мірная вайна
Усіх супроць усіх.

***

Не менш, шчэ больш,
Чым грошы,
Рабы ўладу адмываюць.

***

Раб-карупцыянер
Процьма грошай нагроб...
Цяпер яму дзяўчат
і ўладу падавай.

***

Афшоры..., укладчыкі
і прымальнікі
Сведчаць аб рабскіх
Зацікаўленнях узаемных.

***

Раб-пацук трымае венік,
А пад ім -
Мышэй-рабоў.

***

Чым больш рабоў,
Рабу тым лепш:
Ёсць за каго хавацца.

***

Яшчэ тым лепш рабу:
Ёсць на каго спіхнуць
Свае правіны.

***

Не згодныя з маскоўскім рабствам
Венгры, чэхі ды іншыя
Былі задушаны савецкімі рабамі.

***

Тое самае робіць Масква
З Украінай,
І да Беларусі яно недалёка.

***

Сярод пісьменнікаў
рабоў нямала...
Адпіскі, прыпіскі,
Даносы.

***

Няма каго,
Няма чаго,
Дзе б раб не быў і падабцаснікам.

***

Твае хваробы раба не цікавяць;
Зацікаўленні яго -
Каб паслугаваў ты яму.

***

Раб лашчыць тулава на сонцы,
А сонца праўды -
Не для яго.

***

Раб-уладар
Да таго давядзе грамадства,
Што падапечныя
і жалудам будуць рады.

***

Заганы і звышзаганы -
Звышпланы
Рабоў.

***

Рабу абяцаюць,
І ён абяцае,
А ўрэшце - цацанкі-нулі.

***

У рабоў адна навука -
Навука свабоду
Прыдушваць.

***

Не прызнаваць сваіх памылак -
Таксама патыхае
Рабствам.

***

Раб, што доўга жыве,
Зусім
Не жыве.

***

Раб не здольны
Перастаць
Баяцца.

***

Калі што путнае рабу гаворыш,
Падножкі-словы ён ўстаўляе,
Каб перабіць цябе.

***

Падглядзець, падслухаць,
А потым перавярнуць
І распаўсюдзіць -
таксама занятак раба.

***

Маёмасць, улада, вядомасць
Заўжды былі ветразямі
Для рабоў.

***

Пошук у раба адзін, -
Каб дзе і як свабоднаму
Нашкодзіць-напаскудзіць.

***

Ціхутка, з-пад цішка
Раб свае брудныя дзеі
Здзяйсняе.

***

Праўда і воля -
Палон не для
Раба.

***

Калі рабы ўсіх краін
Аб'яднаюцца,
Зямлі канец настане.

***

Займайся сабой,
Не хадзі на зборышчы
Рабоў.

***

Падчас вайны
Мяне не забілі немцы,
А сёння свае рабы забіваюць.

***

А гэты раб духоўны перакананы,
Што Бога рука -
На яго плячуку.

***

Устрымлівайся набліжацца
Да саманаблiжаных да Бога,
Штосьці рабскае дрэмле ў іх.

***

Пакуль праз новае неба
Не перародзіцца раб-homo crectus,
Рабства зямлю не пакіне.

### III

І ў раба ёсць сёмае неба...
Няма нічога больш жудаснага,
больш прыніжальнага,
чым быць рабом раба.
**Карл Маркс.**

Люди холопского звания -
Сущие псы иногда;
Чем тяжелей наказание -
Тем им милей господа.
**Мікалай Някрасаў.**

***

Хто супляменнікаў сваіх
Пертварыць імкнецца ў рабоў,
Сам - першы раб.

***

Да "светлай будучыні"
Заўжды вялі рабоў
Духоўныя рабы.

***

Каб дагадзіць рабу-гаспадару,
Адзін аднаго рабы знішчаць
Гатовы.

***

На карысць рабам-уладальнікам
Рабы шараговыя
Адзін аднаго кантралююць.

***

Не праміне ў размове раб
Свайго гаспадара
Ўславіць-ухваліць.

***

Рабы - адна сям'я,
Найбліжшая радня,
А як яны паміж сабою варагуюць.

***

Раб-шараговец прыхварэў
І ў гэтым вінаваты
Перад рабаўладальнікам-рабом.

***

І ў паўсядзённым рабстве
Ого, якія ліхачы
Вярхоўныя рабы.

***

Службовае становішча раба -
Ёсць старт і шлях
У разбэшчанае царства.

***

Пакорліва служыць гаспадару -
Удасканальванне становішча
Абодвух.

***

І рабам свеціць сонца сапраўднае,
Ды не ўдзячны яны
Яму.

***

Вогнішча,
што нішчыла Лышчынскага,
Было ярчэй сонца
Для Яна Бжоскі-раба.

***

Рабамі пасланы Горст-раб
Давыда Гарадзенсага
Жыцця пазбавіў.

***

Сярод двух начальнікаў-рабоў
Адзін заўжды -
Галоўнейшы.

***

Даўней раба на сабаку мянялі,
Сёння пасада замест
Сабак.

***

Галава раба, бы барабан,
Па якім гуляюць палкі
Гаспадарскія.

***

Шчокі раба яшчэ
І для таго,
Каб па іх гуляла
далонь гаспадарчая.

***

І ў раба ёсць сёмае неба...
Яно - начальнік на вялікай
Пасадзе.

***

Шукае раб вышэйшага раба,
Каб больш яшчэ сябе
Прынізіць.

***

Шукае раб вышэйшага раба,
Каб на яго замах не здзейсніць,
А каб на дольш сябе прынізіць.

***

У рабоў-гаспадароў
Шматбаковыя інтарэсы
У кірунку рабства захавання.

***

Ад зайздрасці адзін аднаму
Пухнуць і той, і гэты -
Вось сведчанне рабскага стану.

***

Інфляцыя...
Інфляцыя...
Але не для інстытута рабоў.

***

Рабоў муштраваць не трэба,
Самі яны
Самамуштруюцца.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Жыццёвыя шляхі Івана Навуменкі і асаблівасці яго прозы

Сёлета 15 лютага адзначалася 95-годдзе з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі.




Паліцы кнігарняў і бібліятэк папоўніла новае змястоўнае выданне "Кулуарамі творчай майстэрні Івана Навуменкі". Манаграфія з'явілася вынікам працы аўтарскага калектыву над падрыхтоўкай да выдання Збору твораў Івана Навуменкі ў 10 тамах.

*"У беларускай літаратуразнаўчай і эдыцыйнай практыцы падрыхтоўка дзесяцітомнага навукова каментаванага Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі, выдатнага празаіка, драматурга, крытыка і публіцыста, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, акадэміка НАН Беларусі, доктара філалагічных навук Івана Навуменкі ажыццяўлялася ўпершыню,* - пазначыла ў прадмове да кнігі Алена Манкевіч. - *Упершыню была праведзена пошукавая работа ў фондах спецыялізаваных архіваў, музеяў, бібліятэк, прыватным архіве нашчадкаў І. Навуменкі, у выніку чаго былі выяўлены, сабраны, сістэматызаваны і прааналізаваны практычна ўсе мастацкія творы класіка, распрацавана канцэпцыя выдання з размеркаваннем твораў па тамах."*

У манаграфіі, якую калектыў аўтараў прапанаваў зацікаўленаму чытачу, дадзена агульная характарыстыка творчасці І. Навуменкі, раскрыта змястоўна-праблемнае багацце яго твораў, іх жанравая разнастайнасць, вызначана месца пісьменніка ў беларускай літаратуры. Адкрывае манаграфію раздзел, аўтарам якога з'яўляецца С.С. Лашук, зямляк Івана Навуменкі, галоўны каардынатар працы па падрыхтоўцы да выдання Збору твораў Івана Навуменкі ў 10 тамах.

С.С. Лашук у сваім раздзеле ўзгадаў яркія моманты жыцця Івана Навуменкі. Не забыты ўдзел юнака ў дзейнасці падпольнай арганізацыі ў Васілевічах, допыты ў засценках жандармерыі, з якой, па шчаслівых абставінах удалося вызваліцца, дзейнасць у партызанскім атрадзе. Веданне нямецкай мовы і вопыт работы ў партызанскай разведцы прадвызначылі франтавы лёс Івана Навуменкі. Дзякуючы яго радыёперахопам ўдалося выйграць некалькі наступальных аперацый, пазбегнуць страт у жывой сіле і тэхніцы.

Вяртанне ардэнаноснага вайскоўца ў родныя Васілевічы ў 1945-тым, праца карэспандэнтам раённай газеты і паступленне на завочнае аддзяленне філфака БДУ сталі важнымі прыступкамі для ажыццяўлення мары будучага пісьменніка.Чырвоны дыплом выдатніка і паступленне ў аспірантуру, праца ў штаце рэспубліканскай газеты "Звязда" і ўдзел у выданні часопіса "Маладосць" вызначылі далейшыя вехі творчасці пісьменніка.

Майстэрству празаіка і раманіста прысвяцілі свае раздзелы даследчык Алесь Лапата-Загорскі.

*"Паступова Іван Навуменка авалодаў таямніцамі прафесіі, і ўжо самыя першыя апавяданні празаіка, напісаныя ў 1954-56 гадах вызначаліся арыгінальнасцю, мастацкай свежасцю, добрай адшліфаванасцю, выверанай на мілагучнасць фразай і ўвогуле прыкметнай прафесійнай культурай, за якой адчуваўся вопыт дасведчанага журналіста, а галоўнае - беспамылкова ўгадвалася глыбокае разуменне жыцця, уласная навуменская інтэрпрэтацыя*, - піша даследчык. - *Першыя апавяданні пісьменніка былі надзелены многімі мастацкімі якасцямі, якія будуць характэрнымі для творчасці пісьменніка і ў наступныя гады." Тэма ваеннага юнацтва ўсебакова даследвалася Іванам Навуменкам у раманах "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах" і "Сорак трэці".*

Жыццёвая праўдзівасць, у нечым нават факталагічная празрыстасць мастацкага аповеду ў раманах І. Навуменкі дае выразную арыенціроўку ў пошуку і знаходжанні прататыпаў герояў раманаў, у распазнанні апісанай геаграфічнай мясцовасці, а таксама ў вызначэнні жыццёвага ці гістарычнага факта, які лёг у аснову той ці іншай сюжэтна-мастацкай карціны жыцця. Разам з аўтабіяграфізмам у мастацкай прасторы І. Навуменкі блізка судакранаецца прыём дакументалізму. Даследчыкі творчасці пісьменніка У.П. Каваленка, З. В. Жалезка, В.А. Сяргеева паспрабавалі вывесці пэўную адпаведнасць падзей і герояў рамана з рэальнымі падзеямі, якія адбываліся ў родных пісьменніку Васілевічах. У сваім даследванні мясцовы краязнавец, настаўніца гісторыі Васілевіцкай школы В.Сяргеева змагла даволі пераканаўча суаднесці біяграфіі герояў твораў з рэальнымі прататыпамі жыхароў Васілевіч.

Шмат цікавых назіранняў і высноў пра асаблівасці творчай манеры І. Навуменкі зрабіла ў сваім артыкуле Інэса Баўтрэль. Уладзімір Чарота прааналізаваў плён больш, чым пяцідзесяцігадовай працы І.Я. Навуменкі на ніве крытыкі і літаратуразнаўства.

Новая кніга "Кулуарамі творчай майстэрні Івана Навуменкі" будзе цікавая літаратуразнаўцам, выкладчыкам, аспірантам, студэнтам ВНУ гуманітарнага профілю і ўсім, каму блізкая творчасць Івана Якаўлевіча Навуменкі.

***Падрыхтавала Эла Дзвінская.***

***Навіны Германіі***

# Германія выступіла супраць вяртання Расіі ў G7



***Міністр замежных спраў Германіі Хайка Маас. Фота: dpa***

*Нямецкі бок лічыць, што вяртанне Расіі ў Вялікую сямёрку немагчыма без вырашэння канфлікту ва Украіне, бо нельга "проста так пагадзіцца з тым, што ў XXI стагоддзі межы ў Еўропе змяняюцца".*

Міністр замежных спраў Германіі Хайка Маас паведаміў, што яго краіна выступіла супраць прапановы лідара ЗША Дональда Трампа вярнуць Расію ў Вялікую сямёрку (G7), паведамляе korrespondent.net.

Выключэнне Расіі з G7 было звязана з анексіяй Крыма і сітуацыяй на ўсходзе Украіны, адзначыў кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Германіі: "Пакуль гэтае пытанне не вырашана, я не бачу магчымасцяў для запрашэння Расіі".

Маас заявіў, што Германія захоўвае пазіцыю ў тым, што Крым з'яўляецца часткай Украіны. "Мы не можам проста так пагадзіцца з тым, што ў XXI стагоддзі межы ў Еўропе змяняюцца", - сказаў Маас, і дадаў, што Расіі неабходна, "шмат зрабіць, каб зноў адчыніліся дзверы".

Хайка Маас заявіў, што таксама не згодны з прапановай запрасіць іншыя краіны на саміт G7. "Мы лічым нармальным фармат G7 або G20, але супраць G11 або G12", - падкрэсліў кіраўнік МЗС Германіі.

Саміт Вялікай сямёркі ў бягучым годзе быў запланаваны на чэрвень, аднак пазней амерыканскі прэзідэнт адклаў яго як мінімум да верасня і заявіў, што хацеў бы правесці гэты саміт у пашыраным фармаце - пры ўдзеле не толькі Расіі, але і Паўднёвай Карэі, Аўстраліі і Індыі.

У свой час Дональд Трамп пракаментаваў сваю ініцыятыву вярнуць Расію ў G7. На ягоную думку, запрашэнне Расіі на саміт G7 дапамагло б спрасціць вырашэнне многіх праблем.

***nn.by***




## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Чаркасаў Сяргей - 20 р., г. Менск
2. Бандаровіч - 2 р., г. Менск
3. Аглушэвіч - 10 р., г. Менск
4. Жамойдзін Яўген - 3 р., г. Менск
5. Ляўшун Д. - 10 р., г. Менск
6. Багач Уладзімір - 3 р., г. Гомель
7. Ланкевіч Юры - 3 р., а/г Налібокі
8. Пляхневіч М. - 3 р., Самахвалавічы
9. Вяргейчык В.П. - 15 р., г. Барысаў
10. Пранік Пётр - 3 р., г. Смалявічы
11. Касцюкевіч Яўген - 3 р., г. Менск
12. Кізевіч Яўген - 3 р., г. Менск
13. Шкірманкоў Фелікс - 20 р., г. Слаўгарад
14. Карпук А.Л. - 100 р., г. Берасце
15. Паленік Сяргей - 10 р., г. Кобрын
16. Любін Мікалай - 20 р., г. Менск
17. Птушка С.І. - 5 р., в. Хільчыцы
18. Фурс Антон - 60 р., г. Паставы
19. Рабека Мікалай - 20 р., г. Менск
20. Тарасаў Мікіта - 20 р., г. Менск
21. Сямічова - 30 р., г. Менск
22. Пушкароў Анатоль - 50 р., г. Менск
23. Бубен Кастусь - 15 р., г. Менск
24. Дубовік С.В. - 10 р., г. Менск
25. Панасюк А.П. - 100 р., г. Менск
26. Урублеўская Н.В. - 20 р., г. Баранавічы
27. Шкут Яўген - 2 р., г. Менск
28. Тарайновіч Уладзімір - 20 р., г. Менск
29. Вяргейчык Валянціна - 200 р., г. Менск
30. Чэчат Алесь - 50 р., г. Менск
31. Прылішч Ірына - 20 р.
32. Рак П.Ф. - 15 р., Балашыно
33. Чыгір Яўген - 10 р., г. Менск
34. Ральо Леанід - 30 р., г. Баранавічы
35. Сакалоўскі Віктар - 30 р., г. Ваўкавыск
36. Бакіноўскі В.К. - 50 р., г. Дзяржынск
37. Жыдаль Дзяніс - 50 р., г. Менск
38. Бушык А.М. - 20 р., г. Менск
39. Кукавенка - 25 р., г. Менск
40. Оліна Эла - 10 р., г. Менск

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэа-льнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" IBAN - BLBBBY2X (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

(Заканчэнне. Пачатак у папяр. нумарах.)

*Віктар Шніп*

# БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## *Баллады крыві і любові*

### БАЛАДА МІХАЛА АНЕМПАДЫСТАВА
### (16.03.1964 - 24.01.2018)



Мы ў цямрэчы з табою чакалі Калядаў
У Краіне, якая была пад снягамі.
І прыходзіў да нашых
прыгорбленых хатаў,
Каб пагрэцца лясун з маладымі ваўкамі.
У пабеленай печы ў агніску чырвоным
Пахка бульба пяклася, варылася кава.
Ля вакон пралятаді, як вершы, вароны,
І кароткай была для гасцей тваіх лава.
І гарачыя струны гарачай гітары
Напаўнялі цяплом нашы душы і сэрцы.
І сплывалі халодныя чорныя хмары,
Дзе на поўні ляжалі, нібы на талерцы,
Залатыя ключы ад бясконцага шчасця.
Толькі мы не глядзелі на іх, бо не трэба
Нам было залатое - яно не багацце,
Бо ёсць хлеб на стале і хапае да хлеба,
І ёсць простыя словы, і простыя рэчы,
І Краіна, якая з-пад снегу паўстала,
І мы выйшлі з табою з адвечнай цямрэчы,
Але гэтага мала, табе было мала.
І пайшоў ты адзін у сваё падарожжа,
Каб мы проста жылі, а пасля паміралі
Не за грошы і чын, і, каб верылі-зналі,
Што да светлых Калядаў
дажыць усе зможам.
*24.01.2018 г.*

### БАЛАДА СЯРЖУКА ВІТУШКІ
### (10.04.1965 - 2.07.2012)

Na paszparcie zolatam - VKL,
I viza z minuuszczyny u novi.
Czytajcie, zajzdroscie - ja hramadzianin
Vialikaha Kniastva Lubovi.
**_Сяржук Вітушка._**

У Вялікае Княства Любові дарога
Для цябе і сяброў, як дарога да Бога,
Як дарога да роднае хаты, да маці…
Ты ідзеш па дарозе нябачнай і шчасце




Матыльком над табою крыляе спакойна
І ад гэтага светла, ад гэтага гойна
На душы і на сэрцы тваёй талакі,
Дзе ў сяброў на пытанне жыцця:
"Хто такі?"
Ёсць адказ: "Беларус! І тут наша зямля
Ёсць, была і тут будзе заўсёды пасля!
І касцямі мы ляжам у нашу зямлю,
Для якой не крычалі: "Да скону люблю!",
А маўклівa любілі, з нябыту ўздымалі
Беларусь, за якую сцяною стаялі
Нашы продкі на замкавых сценах і ў полі,
І не здраджвалі ёй ні за што і ніколі!"
Ты ідзеш па дарозе нябачнай, шчаслівы,
І ты рыцар, якому радзімыя нівы
Гояць раны на сэрцы, дзе ўся твая кроў
Ператворана ў Веру, Надзею, Любоў…
І ляціць матылёк над табой і ляціць,
І нікому яго не зламіць, не забіць,
Бо ён вечны, як ты, бо ты вечны, як свет,
Праз які ты ідзеш, як змагар, як паэт,
У якога нічога няма акрамя
Беларусі і продкаў імя…
*3.07.2012 г.*

### БАЛАДА ЗМІТРА СІДАРОВІЧА
### (2.10.1965 - 17.05.2014)



Пра што спяваць? Няма ў цябе пытання.
Калі спяваць - пра Беларусь спяваць,
Пра волю вольную і пра каханне,
Якія ў сэрцы, як страла, сядзяць
І забіваюць нас штодзённа і штохвілі
За тое, што жывём, што палюбілі
Нялёгкі шлях да сонца і крыжоў.
Іграеш на дудзе, як сто вятроў
З сівых вякоў праходзяць праз цябе
У гэты свет, дзе ты сказаў журбе:
"Ты не мая, і мне тваім не стаць!"
Не стаў і ўжо не станеш аніколі,
Бо ты сябе змог музыцы аддаць,
Што павуцінкаю плыве над полем,
Над беларускім полем, дзе ляжаць
Героі нашы, пра якіх забыцца -
Бязлітасна забіць іх яшчэ раз.
Ты музыкаю стаў, што б'е з крыніцаў,
Святых крыніцаў, што цякуць праз нас,
Каб мы жылі і не было пытання,
Што нам спяваць. Пра Беларусь спяваць,
Пра волю вольную і пра каханне,
Якія ў сэрцы, як страла, сядзяць…
*20.05.2014 г.*

### БАЛАДА АЛЕСЯ ЛІПАЯ
### (9.04.1966 - 23.08.2018)



У нябёсах высокіх тваіх аблачыны
У нябыт не плывуць, як паперы, гараць,
На якіх былі напісаны вершы для Айчыны,
Ды Айчына твой верш
не змагла прачытаць,
Бо патрапілі ў верш твой гадзюкі-маланкі
І агнём ахапіліся неба і ты,
І звугліліся ўміг вечары твае, ранкі,
І табе не знайшлося жывое вады...

Ды нябёсы твае засталіся над намі,
І сцяжыны твае не зацягне травой,
І твой верш прачытае Айчына з гадамі
І пабачыць,
што верш быў прысвечаны ёй…
*25.08.2018 г.*

### БАЛАДА ЛАРЫСЫ ЗАСІМОВІЧ
### (1967 - 1992)




Згараюць дні пражытыя і ночы…
Згараюць фарбы ў незямным агні…
І неба ў хмарах, як у дыме плошча,
Дзе пад асфальтам спрасаваны дні
Забытыя, нязздзейсненыя мроі,
Дзе ўсё было, як росная трава,
Дзе ў вечным сне тутэйшыя героі
Самотныя, як белая царква,
Што чорнай стала, бо гараць дні й ночы,
Дзе мы былі і дзе не будзем мы,
Дзе час і дым цякуць крывава з плошчы
Ў неба, як праз пальцы, праз дамы
І ў вечнасці губляюцца над намі
І застаюцца ў попеле карцін,
Што чорнымі ўзлятае матылямі
Па-над агнём, што, як душа, адзін…
*26.02.2008 г.*

### БАЛАДА ЮРЫЯ БЛІНОВА
### (3.08.1975 - 21.04.2019)




За музыку - анёльскую Айчыну -
Трымалася натхнёная душа,
Якая век не ведала спачыну.
Жыццё без музыкі - як без граша,
Як без дарогі, што вядзе на волю,
Як без надзеі, што міне зіма…
Нам шчасця вечнага не мець ніколі,
І ўжо чаго няма, таго няма
І век не будзе ў гэтым мройным свеце,
Дзе мы не любім забарон і меж…
Нам на раялі чорным свечка свеціць,
Як зорка ў небе, па якім ідзеш,
Нябачны, нібы музыка, якою
Ты жыў, не думаў, што так блізка час,
Калі ўзляціш за музыкай сваёю,
Каб шчасця ў Бога папрасіць для нас…
*22.04.2019 г.*

Мы ўжо збіраліся развітацца з фундаментальным творам Віктара Шніпа, аж не. Пакуль мы з нумара ў нумар друкавалі балады, паэт не спаў у шапку і напісаў вялікі дадатак, ён ізноў прайшоўся па стагоддзях і згадаў асобаў, прапушчаных у першай серыі. І гэта не дзіўна, што ёсць асобы, якія ён прапусціў. Я не здзіўлюся, калі будзе і трэцяя серыя, бо беларуская гісторыя настолькі багатая, што ахапіць яе ні аднаму чалавеку, ні інстытуту гісторыі, ні акадэміі навук не пад сілу. Мы за тысячу з лішнім гадоў натварылі на гэтым свеце столькі, што трэба тысячу гадоў апісваць. Але падымаючы постаць за постаццю, падзею за падзеяй, мы робім гэтую гісторыю ўсё больш маналітнай, моцнай усё больш грунтоўнай, раскопваем падмуркі нашай дзяржаўнасці, каб на ім паверх за паверхам будаваць гмах новай Беларусь, такой жа велічнай ў будучыні, якой яна была ў мінулым.

Чакайце працяг.





*Упершыню на беларускай мове, артыкулы Антона Луцкевіча*

# Ці зразумеюць?

Рух адраджэння кожнага народа звычайна абапіраецца на два галоўныя чыннікі: абуджэнне нацыянальнай свядомасці ў шырокіх народных масах і стварэнне вартаснай нацыянальнай культуры. У беларускім руху першы чыннік праявіўся на пачатку гэтага стагоддзя, калі народныя масы пачалі актывізавацца ў сувязі з рэвалюцыйным рухам у Расіі. Калі пад тэрмінам "культурных вартасцей" у шырокім сэнсе будзем разумець стварэнне новай, собскай нацыянальнай літаратуры, дык другі чыннік у нас зараз значна апярэдзіў першы. У даваенныя часы амаль што ўся культурная творчасць беларусаў абмяжоўвалася літаратурай і прэсай. Тэатр і музыка толькі пачыналіся. Яшчэ слабейшай была беларуская праца на навуковай ніве, гэтакую працу прэзентавалі толькі адзінкі ў галіне археалогіі, этнаграфіі і гісторыі. А навукоўцы-беларусы ў асноўным карысталіся чужымі мовамі.

Можам цвердзіць, што тэмп развіцця нацыянальнай свядомасці ў беларускіх масах перад вайной быў вышэйшым чым тэмп развіцця творчай культурнай працы. Але гэтак не магло доўга трымацца: піянеры адраджэння якія будзілі свой народ з летаргії, мусілі даваць яму нешта большае чым сабраны этнографамі ўласны культурны здабытак гэтага ж народа, ці прымітыўнага тэатра, папулярных брашурак і г. д. Трэба, каб адначасова з нацыянальным прабуджэннем беларусаў ўздымаўся і іх культурны ўзровень, каб наша нацыянальная інтэлігенцыя мела магчымасць задавальняць свае духоўныя патрэбы ва ўласным асяроддзі на сваёй роднай мове, а не сярод палякаў ці расейцаў. Для гэтага былі патрэбныя вялізныя творчыя высілкі па стварэнні ўласных вышэйшых культурных вартасцяў. Праца ў гэтым кірунку пачала хутка развівацца пасля Сусветнай вайны.

Зразумела, што гэтакая праца можа развівацца толькі ва ўласнай дзяржаве. У беларусаў развіццё навукі і мастацтва пачалося і хутка пайшло наперад пасля стварэння БССР у лоне СССР. Пры ўсёй ілюзорнасці і несамастойнасці гэтага цалкам залежнага ад Масквы дзяржаўнага ўтварэння, савецкая ўлада дала беларусам рэальную магчымасць культурнай працы. З пачатку 20-х гадоў нашага стагоддзя і да канца гэтага дзесяцігоддзя мы былі сведкамі хуткага развіцця беларускай паэзіі, прыгожага мастацтва (тэатр, музыка, жывапіс і г.д.) і навукі. Сотні маладых паэтаў - сялян і рабочых, дэбютавалі ў Саветах на старонках беларускіх часопісаў, і сярод гэтых сотняў, дзясяткі аказаліся па-праўднаму таленавітымі. Беларускі дзяржаўны тэатр дасягнуў вышынь і стаў на адзін узровень са слаўным тэатрам Станіслаўскага у Маскве. На тэрыторыі БССР стала працуюць тры драматычныя трупы - у Менску, Віцебску і выязны тэатр. Хары і балет - першакласныя. Над апрацоўкай беларускіх матываў працуе шэраг выбітных рускіх кампазітараў (Грачанінаў, Аладаў і г. д.), яны ствараюць музычныя творы на грунце беларускай мелодыкі. За імі падрастае пакаленне кампазітараў, якія нарадзіліся ў Беларусі.

У беларускай навуцы дамінуючую ролю адыграў Інстытут беларускай культуры, які ў 1927 г. стаў Беларускай акадэміяй навук (Менск, Віцебск, Горы-Горкі) з Беларускім універсітэтам на чале. У тым жа Менску паўстае мільённы кнігазбор - Беларуская дзяржаўная бібліятэка, а таксама Беларускі дзяржаўны музей і дзясяткі іншых, агульных і спецыяльных навуковых пляцовак. Адзін з польскіх прафесараў, выбітны гісторык, пасля наведвання гэтых пляцовак у Менску са шчырым энтузіязмам апавядаў пра іх надзвычай каштоўныя навуковыя здабыткі, пра іх багатыя калекцыі, пра навуковыя выданні, пра будынкі і арганізацыю працы.

І калі з вышыні птушынага палёту паглядзім на ўсю беларускую культурную працу, мусім сказаць, што тэмпы развіцця другога чынніка нацыянальнага адраджэння не толькі не адстаюць ад тэмпаў развіцця свядомасці, але і, магчыма, апераджаюць яго.

Так. Але ўсе культурныя здабыткі ў БССР трэба браць cum grano salis (лац., з недаверам -*Л.Л.*) Вось ужо 5 - 6 гадоў як яны перанасычаныя дзяржаўнай камуністычнай дактрынай. Культурна-творчая праца беларусаў у Саветах перажывае цяжкі крызіс: больш за 500 навукоўцаў, якія працавалі не толькі дзеля камуністычнай справы, але дзеля навукі, дэпартаваны з Беларусі ў адлеглыя куты Савецкага Саюза, а некаторыя і на слынныя Салаўкі. І ў беларускія вышэйшыя навучальныя установы, беларускія навукова-даследчыя пляцоўкі, музеі і г. д. прыйшлі "стопрацэнтовыя камуністы" якія лічаць навуковую працу адным з спосабаў службы дзеля камунізму. Вось так, усё, як у "цёмным сярэднявеччы", калі лічылася, што "Philosophia est ancilla theologiae" (лац., "Філасофія служыць тэалогі", ад сябе хачу дадаць, што Антон Луцкевіч, пэўна, не чытаў Шпенглера, а каб чытаў, дык ведаў бы думку гэтага мысляра, што тэалогія насамрэч з'яўляецца вышэйшай з навук. - *Л. Л.*)

Калі зараз пагледзім на Заходнюю Беларусь, якая ўвайшла ў склад польскай дзяржавы, з двума мільёнамі беларусаў[1], дык мусім сказаць, што адсутнасць нават самага сціплага самакіравання ці аўтаноміі, брак падтрымкі ці хоць спрыяння з польскага боку да беларускіх культурных пачынанняў на ніве навукі ці мастацтва, пакінулі нам вельмі вузкую браму. Культурных асяродкаў, якія сваёй працай маглі б канкураваць з чырвоным Менскам мы цалкам не маем[2]. Адсутнічаюць літаратурна-мастацкія звязы. У Вільні адсутнічае нават пастаянны беларускі хор, і гэта нягледзячы на высілкі арганізатара шэрагу харавых выступаў сп. Шырмы. Адзіная навуковая пляцоўка публікуе свае працы на беларускай мове, гэта Беларускае навуковае таварыства. Адзіная рэпрэзэнтацыйная ўстанова дзе можна ўбачыць узоры старой беларускай культуры, гэта Беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў па-базыльянскіх мурах. Іншыя таварыствы і культурныя інстытуцыі, пераважна пашыраюць сярод беларускага народа адукацыю і да даследчыцкай працы дачынення не маюць.

Тое, што Вільня не можа ў гэтай справе супрацьстаяць Менску, наогул вінаватыя кіруючыя палітычныя чыннікі ў Польшчы. Тут да нашага часу жыве погляд пана Скульскага, які, калі быў прэм'ерам, сказаў, што праз 50 гадоў у Польшчы нават з ліхтарыкам немагчыма будзе знайсці беларуса. І дзяржаўныя мужы не могуць зразумець, што нягледзячы на наяўнасць мяжы паміж Савецкай і Заходняй Беларуссю, у агульнай беларускай культуры ўнёсак Менска дамінуе і будзе дамінаваць да таго часу, пакуль у Вільні не паўстане шырокі беларускі культурна-творчы рух, які абапіраецца на моцны фундамент і нясе заходнія каштоўнасці. На гэтым павінны былі б засяродзіцца польскія палітыкі, якія да гэтага часу бачаць усе ў святле ліхтарыка Скульскага.

Але і беларускае грамадства павінна зразумець вартасць культурнай творчасці ў беларускім жыцці[3]. З кожным годам прыбываюць маладыя інтэлігентныя сілы, якія мусяць мець для сябе духоўную ежу не толькі з камуністычнага Менска. З чым жа пойдуць яны на свайго народа, чым будуць узмацняць яго адпорнасць супраць пакушэнняў больш багатых і культурных суседзяў, якія імкнуцца да дэнацыяналізацыі беларусаў?

Інтэлігентная моладзь пачынае гэта разумець. Студэнцтва Віленскага ўніверсітэта спрабуе ўласнымі сіламі займацца навукова-даследчай працай (Таварыства сяброў беларусазнаўства). Штораз часцей чутны сярод моладзі галасы аб неабходнасці аб'яднання ўсіх беларускіх сіл у Польшчы для паскарэння павольнага тэмпу працы над стварэннем культурных каштоўнасцяў - праяў несмяротнага і незнішчальнага народнага духу. Ці знойдуць гэтыя галасы разуменне ў собскім грамадстве, ці ацэніць яно належным чынам значэнне развіцця асяродка заходне-беларускай культуры, вось у чым пытанне[4]. Ад гэтага ў вялікай меры будзе залежыць развіццё Беларусі, як духоўнай цэласнасці.

S-wicz [Антон Луцкевіч]. Czy zrozumieje // Preglad Wilenski. 1935. № 1. S. 3-4.

*Пераклад Л. Лаўрэша.*

[1] Згодна з апошнім перапісам - 1 600 000.

[2] Трэба адзначыць, што ў апошнія часы вядомы і паважаны беларускі артыст і драматург Ф. Аляховіч працуе над тым, каб запоўніць гэту пустку ў Вільні.

[3] Адзін з вядомых у Вільні беларускіх дзеячаў, у прысутнасці аўтара засведчыў, што напісанне беларускай оперы, над якой працуе вядомы ў ва ўсім сусвеце кампазітар Грачанінаў, "для беларусаў - празмерная раскоша", а дастаткова толькі "добрага народнага спеўніка".

[4] Статут праектаванага Беларускага звязу выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў, які мае за мэту спрыяць культурна-творчай працы, два года ляжыць у ваяводскай управе і не можа дачакацца зацвярджэння.

# Ліквідацыя беларускай гімназіі ў Наваградку

Куратарыюм Школьнай акругі ў Вільні вырашыў зачыніць Беларускую гімназію ў Наваградку. Гэты крок Куратарыюм матывуе недахопам вучняў у той час як кіраўніцтва гімназіі інфармуе, што ў гэтым годзе было пададзена 38 заяў у першы клас.

Нават згодніцкі "Родны Край" лічыць матывы закрыцця не слушнымі і з свайго боку падае іншыя прычыны ліквідацыі гімназіі, а менавіта: 1) пашырэнне камуністычных уплываў сярод вучняў; 2) праваканне моладзі падазронымі асобамі з "другога боку мяжы"; 3) поўнае збядненне беларускай вёскі; 4) значнае падвышэнне аплаты за навучанне пасля таго як гімназія стала дзяржаўнай.

Першы з пададзеных вышэй пунктаў сёння можна лічыць неактуальным. Сапраўды ў беларускіх гімназіях выкрываліся камуністычныя "ячэйкі", але гэта было раней, моднае сярод беларусаў прыхільнае ці паблажлівае стаўленне да савецкага ладу з'яўлялася прыкметай апазіцыйнасці да пануючай у нас сістэмы. Для вялікай колькасці беларусаў бальшавізм быў сімвалам пратэсту і барацьбы за вызваленне. Зараз сітуацыя дастаткова памянялася, каб сур'ёзна ставіцца да гэтага пункта. Іншыя тры пункты і асабліва тое, што гімназія стала дзяржаўнай, насамрэч мелі несумненны ўплыў на лёс беларускай суполкі ў Наваградку.

Як вядома, адзяржаўленню беларускай гімназіі папярэднічала барацьба беларускага грамадства за захаванне сваёй вучэльні ў сваіх руках. Праз некалькі гадоў стала зразумела, што беларускае грамадства мела рацыю. Пераход школ пад дзяржаву аказаўся толькі этапам на дарозе канчатковай ліквідацыі беларускага школьніцтва. Таксама і закрыццё гімназіі ў Наваградку, а калі казаць дакладна, дык закрыццё беларускай філіі пры польскай гімназіі імя Міцкевіча, ні для каго не было нечаканасцю, як не можа быць нечаканасцю смерць схуднелага і хворага чалавека, які згасае на руках у чужых сядзелак.

Беларуская гімназія ў Наваградку была закладзена ў 1921 г. як прыватная школа стараннем мясцовых беларускіх колаў. Нягледзячы на сталыя матэрыяльныя цяжкасці, да 1927/28 школьнага года яе закончыла 136 асоб. У тым годзе гімназія налічвала 140 вучняў. У часы кіравання ваяводы Бачковіча гімназія наогул мела тэндэнцыю да развіцця. Яна атрымала некалькі настаўніцкіх ставак, узняўся навуковы ўзровень і Міністэрства веравызнанняў і асветы надало гімназіі тыя ж правы, якія мелі дзяржаўныя гімназіі. У 1929 г., дзякуючы стараннем беларускіх паслоў, Сейм падчас бюджэтнай сесіі ухваліў 200 000 злотых на пабудовы інтэрната пры гімназіі. З гэтай сумы ўрад ледзь выплаціў 70 000 зл, аднак сам факт дапамогі узняў энтузіязм сярод мясцовага люду. Быў арганізаваны камітэт пабудовы, і пабудаваны мураваны гмах. Беларускія людзі бясплатна прывозілі неабходныя будаўнічыя матэрыялы, а вучні гімназіі сваімі рукамі дапамагалі будаўнікам. Пасля гэтага, нягледзячы на цяжкую эканамічную сітуацыю, каб закончыць будаўніцтва інтэрната, людзі збіралі грошы гатоўкай. На жаль для заканчэння будаўніцтва не хапіла народных грошай, а сумы, прызначаныя праз Сейм, не былі цалкам выплачаны. З прыездам новага ваяводы сітуацыя пачала псавацца. Новыя чыннікі пагоршылі становішча гімназіі. Пачалі казаць пра яе адзяржаўленне.

"Нарэшце, дзякуючы працы куратара Шэлангоўскага, у гэтым годзе беларуская гімназія ў Наваградку стала дзяржаўнай. Такім чынам пакладзены трывалы падмурак пад нармальнае развіццё школы". Так выказаўся Севярын Віславух на старонках "Валацугі" (Wloczegi) ў красавіку мінулага года. Старанне аб захаванні "статус кво" ў Наваградскай і Віленскай гімназіях былі беспаспяховымі і, на жаль, беларускае грамадства не было адзіным.

Больш-менш у адзін час з рэарганізацыяй гімназіі, паўстала думка пераназваць інтэрнат, які будаваўся, у інтэрнат імя Галоўкі і прымаць на вучобу вучняў-палякаў. Цалкам было забыта тое, што Сейм выдаў грошы на беларускі інтэрнат для беларусаў. У рэалізацыі гэтага праекту самым горшым аказаўся пасол у Сейм ад Беспартыйнага Блоку Супрацы з Урадам Шыманоўскі, які здаецца, у гэтым выпадку быў адзіным, хто мог весці перамовы ад імя беларусаў. Аднак, да рэалізацыі гэтага праекту не дайшло, і незакончаныя муры гмаха сёння, як быццам, пытаюць - што далей?

Працяг будаўніцтва інтэрната быў лепшым доказам, што лёс гімназіі быў вырашаны даўно. Праверкі гімназіі і арышты сярод вучняў а таксама дапамога фактам у кляўзе, якія рэхам адбіліся ў запыце пасла Ярэміча - усё гэта стварала атмасферу, якая спрыяла ліквідацыі непажаданай пляцоўкі. Нарэшце клямка ўпала.

Настаўніцкі персанал, праўдападобна, часткова застанецца без працы, а часткова, пасля шматгадовай працы ў сярэдняй школе будзе пераведзены выкладаць у пачатковыя школы. Што самае дрэннае - школьная моладзь з Наваградскай гімназіі не ў стане далей вучыцца ў далёкай беларускай гімназіі ў Вільні, бо не мае грошай на пражыванне і дарогу. Маем надзею, што частка гэтай моладзі працягне навучанне ў польскай гімназіі ў Наваградку, што, без сумнення, было часткай плана ліквідатараў.

Такім чынам гісторыя беларускага школьніцтва ў межах Польскай дзяржавы стала гісторыяй ліквідацыі гэтага школьніцтва, ліквідацыі крок за крокам, але паступова на працягу ўсяго часу. Засталася адзіная гімназія ў Вільні, а калі казаць дакладна - дык філія польскай гімназіі імя Славацкага. Ужо сама назва гэтай гімназіі рыхтуе віленскіх беларусаў да поўнага злучэння "з маці". Неспадзяваным гэта ні для кога не будзе.

S-wicz [Антон Луцкевіч]. Likwidacja Bialoruskiego Gimnazjum w Nowogrodku // Preglad Wilenski. № 14, wrzesnia 1934. S. 4-5.

*Пераклад Л. Лаўрэша.*





# Перакладчык з рыцарскімі заслугамі

Дзмітро Чараднічэнка нарадзіўся 30 лістапада 1935 года ў сяле Межырыч (Канеўскі р-н Чаркаскай вобл.). Пасля заканчэння Кіеўскага педагагічнага інстытута (1957) працаваў настаўнікам, журналістам, выдаўцом. З 1992 года ўзначальваў створанае ім літаб'яднанне "Радосынь".

Паэт, педагог, рэдактар, мастацтвазнаўца ў 1979 г. стаў сябрам Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны. Дзмітро Чараднічэнка - аўтар зборнікаў вершаў, аповесцяў, казак, прыпавесцяў… Сумесна з жонкай Галінай Кірпой быў укладальнікам некалькіх выданняў, сярод іх і Буквар, і чытанкі… Такім чынам, ён не толькі выдавец разнастайных зборнікаў, але і аўтар даследаванняў літаратурных стасункаў.

Яго творчай увагай уганаравана і Беларусь. Вось толькі пералік паэтаў, чые творы выйшлі ў пераспеве Д. Чараднічэнкі: Максім Багдановіч, Якуб Колас, Васіль Вітка, Янка Сіпакоў, Іван Калеснік, Алесь Разанаў, Сяргей Панізьнік, Васіль Сідарэнка…

Я магу пахваліцца, што сябрую з Дзмітром больш як паўсотні гадоў.

У прадмове да перакладаў нізкі маіх вершаў ("Українська літературна газета", 22.X.2015 г.) Дзмітро Чараднічэнка пазначыў, што пазнаёміліся мы з ім у 1968 г. у Мікалаеве на фестывалі маладых паэтаў. Усесаюзная сустрэча праходзіла ў чэрвені-ліпені, а вось 29 верасня таго ж года пры маім наведванні Кіева Дзмітро правёў мяне ў неверагодна цікавы музей Ганчара Івана Макаравіча. Потым музей народнага мастака Украіны стаў Нацыянальным цэнтрам народнай культуры.

А ў жніўні 1985 г. Дзмітро адгукнуўся на маё запрашэнне наведаць Беларусь. То "варагі", то "грэкі" прычальвалі ў заснаваны мной музей "Хата бабкі Паракі на Шляху з Грэкаў у Варагі". Літаратурна-этнаграфічнаму музеюсядзібе быў ад Дзмітра ў падарунак верш, які ў маім перакладзе гучыць так:

*Дзякую брату за хлеб і за хату*
*і за тую Дзвіну,*
*у якой я пабачыў*
*беларускіх нябёс сінізну.*
*Я й Слову падзяку нясу:*
*адчуў яго сілу, красу…*
*Дзякую і прыхіляю*
*да Вашага дома я зноў*
*душу сваю і любоў.*
(16.08.1985 г.)

Пасля мы наведалі левы, мой родны бераг Дзвіны з палацам графа Лапацінскага, з многімі прыгоствамі мястэчка Лявонпаль Мёрскага р-на, дзе я вучыўся ў школе. А пазней - зноў Верхнядзвінскі р-н, вёска Расіца, дзе сустрэліся з ацалелымі пасля Асвейскай трагедыі саласпілскімі вязнямі. Пра іх я складаў свае кнігі Памяці. Засталіся на здымках старажытная Дрыса, дарога на Полацак…



**_Дзмітро Чараднічэнка ў вышыванцы / на фестывалі маладых паэтаў братніх рэспублік / г. Мікалаеў, 30.06.--7.07.1968 г.);_**

Ох, нашы пуцявіны-гасцінцы….Недалёка ад Бягомля спыніліся каля помніка. З прыдарожжа проста ўтыкаецца ў вочы выява бронзавай фігуры жанчыны з узнятымі ў праклянцці рукамі. Тут у 1943 годзе разам з жыхарамі, затопленымі ў студні дзецьмі, была знішчана карнікамі вёска Шунеўка - каб не было партызанам прытулку. Некаторы час паўглядаліся ў мемарыял "Праклён фашызму". Архітэктурны комплекс у памяць людскіх стратаў уразіў Дзмітра. У 1987 г. у Кіеве выйшла трылогія Д. Чараднічэнкі "Неопалима колиска" з яго паэмамі пра трагічную долю літоўскага сяла Аблінга, беларускай вёскі Шунеўка, чарнігаўскіх Пяскоў. Асаблівую ўвагу аўтар звяртаў на трагедыю Беларусі ў той пакутнай вайне. Яго паэма "Крыніца" прысвечана закатаваным шаснаццаці дзецям Шунеўкі. Вось урывак з паэмы ў маім перакладзе:

*- А наша крыніца*
*поўна агню…*
*Яшчэ немаўляты,*
*а голас мы свой падаём:*
*"Ніколі не будзем друзам.*
*І нас не заліць*
*тым крывавым агнём -*
*мы беларусы.*
*Нас выкрадалі ў народа:*
*на крылах гусіных*
*вярталіся казачным*
*грузам.*
*Нішчылі нас,*
*ды мы заставаліся*
*сілай;*
*род свой вялі -*
*беларусы.*
*Мы ў завязі кветкі,*
*ў пупышцы лістка,*
*ў карэньчыку*
*і парастку белавусым;*
*у кроплі дажджу,*
*у ядры каласка -*
*беларусы.*
*Шчабеча дзятва*
*ручаямі зямлі:*
*вочы - сінюткі лён,*
*а чубчыкі - лён русы…*
*Гэй! Наўздагон!*
*Узняліся,*
*пайшлі -*
*беларусы.*

Помніца наша сустрэча ў Кіеве 22 снежня 1986 года - у пакоях Саюза пісьменнікаў. Захаваўся перадынавагодні мой здымак удзельнікаў Секцыі мастацкага перакладу: Тацццяны Кабржыцкай, Вячаслава Рагойшы і Дзмітра Чараднічэнкі. Яшчэ адна кіеўская сустрэча з ім - 16.05.1990 года. Творчыя справы патрабалі папаўненняў. Вось як "прытуляў" мяне Дзмітро разам з жонкай Галінай у 2007 годзе: надрукавалі пераклад майго верша ў хрэстаматыі сусветнай літаратуры "Світ від А до Я". А ў 2011 годзе я пераслаў у Кіеў свой зборнік для дзяцей "Літары ў расе". І атрымаў такі, нібы з рук у рукі, водгук, які ў перакладзе гучыць так:

"*Шчыра дзякую за дзівосную кніжку для дзяцей. У мяне пакуль што толькі ад "Буквара" Клышкі было такое неймавернае ўзнясенне.*

*Гэта прыўкрасная, дасціпная, глыбокапатрыятычная чытанка для юных чытачоў…*

*…Вітаю Цябе з высокамастацкім выданнем. Дзмітро Чараднічэнка. 28.XI.2011. Кіеў*".

З дзесяткаў эх-спромтаў на адрас ардэнаноснага лыцара выскачылі такія радкі:

*З Літвою меў ён творчы шлюб,*
*аздобіўшы бурштынам чуб.*
*Ў Паланзе зладзіў творчы зруб:*
*там Данелайціс гладзіў чуб…*

А Данелайціс узгадаўся таму, што Дзмітро Чараднічэнка пераклаў яго паэму "Лета". Асаблівая творчая цяга яго да повязяў такога прасторавага былога дзяржаўнага ўтварэння як ВКЛ для мяне зразумелая. Вычытаў, што маці Дзмітра нарадзілася на Чарнігаўшчыне і пачувала сябе ліцвінкай, бо летуцелі там яшчэ ліцвінскія згадкі. У вершы-прысвячэнні майму сябру "На чаранку радні" нездарма былі такія радкі:

*Жыцця твайго калінка*
*ўквецiць Абалонь.*
*І жытняя скарынка*
*матулечкі-ліцвінкі*
*ўзляжа на далонь…*

Оляна Рута - паэтэса, перакладчыца, мастачка стала на дыбкі:

- Я! Я! Я! Юбілей - гульба мая!

Прытуліўшыся да весніцаў Новага Года, мне застанецца толькі прамовіць вуснамі Дзмітра:

*- Новы Год! Мне вушы тры, кожны юбілей круты!*



**_На сустрэчы з чытачамі, фота дачкі Оляны Руты_**

Падлічыў, што па-ўкраінску з-пад пяра шыкоўнага паліглота Дзмітра праявіліся вершы пяці латышскіх паэтаў. І вершы ажно сямідзесяці аўтараў з Літвы. Я ж абавязкова павінен адзначыць, што Дзмітро перакладае з чэшскай, славацкай, мангольскай моваў. А друкаваўся ён не толькі ў Літве, Беларусі, Латвіі, а і ў Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Балгарыі, Азербайджане, Манголіі, ЗША, Канадзе. Такі ўсюдысны творца не мог быць не ўганараваны не толькі прэміямі роднай Украіны - як імя Максіма Рыльскага, Лэсі Украінкі… Усяго прэміяў, медалёў, граматаў на яго п'едэстале налічваецца добры дзесятак. І землякі Данелайціса былі таксама шчодрымі. Дзмітро Чараднічэнка стаў кавалерам Ордэна Вялікага князя Літоўскага Гедзімінаса 3-й ст. у 1996 г. А Рыцарскі крыж "За заслугі перад Літвой" атрымаў у 2003 годзе.

Уяўляю: 2020 год прыпыніўся ў Кіеве на вуліцы Герояў Дняпра і вядзе перазовы:

- Галіна Кірпа нарадзілася 1 студзеня 1950 года! Віншую!

Юбілярка ўстрапянулася:

- Я - тут!

- Дзмітро Чараднічэнка нарадзіўся 30 лістапада 1935 года! Віншую загадзя!

Юбіляр засяродзіўся:

- Я - тутака!

- Оляна Рута, дачушка іх, нарадзілася 6 жніўня 1977 года…

*Хай танцуе далягляд*
*і лагодзіцца пагляд, -*
*каб з Дняпра свярдзёлкі-вочы*
*адпраўлялі ўдалеч ночы…*
*Іх Галіна не прымне.*
*- Мне русалачка ў Дзвіне*
*спраўдзіць: "Ведаю Дняпро:*
*гладзіла Дзмітра рабро…"*
*Новы Год між намі верціцца…*
*- Хай Оляна Рута сцерпіцца:*
*муж і татка не кудзеліцца, -*
*ён да ўсіх у чарадзе…*
*…Бачу: вунь Дзмітро ідзе!*
*Вільня з ім у грамадзе.*

**_Сяргей Панізьнік._**
*Снежань 2019 г.*

**Дзмітро Чараднічэнка (Кіеў)**

**А ЧЫЙ ТЫ СЫН?**

Ты поўны дабрыні,
Адкрыты і лагодны,
Ты - ласкаю -
І мора зморыш.
І ўсё ж дазволь хоць раз пачуць,
А як з матуляю гаворыш.

Памкненні гордыя ў цябе,
І мэта ў цябе ёсць:
Ты ёю шлях свой зорыш…
І ўсё ж дазволь хоць раз пачуць,
А як з матуляю гаворыш.

Ты ў пахвальбе герой:
Захочаш - спыніш плынь,
А скалам сінь падорыш…
Але адно пачуць дазволь, -
Як з роднай мамачкай гаворыш.

*Пераклаў з украінскай Сяргей Панізьнік.*

**_Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік_**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://nslowa.by/ http://naszaslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 3.08.2020 г. у 17.00. Замова № 1405.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.